





Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




№ 18 (279) СНЕЖАНЬ 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*У злога гаспадара – заўсёды злы сабака*

*Алесь Пісьмянкоў*

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ЖАНЧЫНУ З ГАРАДКА ПРЫСУДЗІЛІ ДА ПСЫХУШКІ

**Суд Гарадоцкага раёну прысудзіў 42-гадовую Алену Емяльянаву да прымусовага лячэньня ў псыхіятрычным стацыянары. Паводле пастановы, яна «замахнулася нажом на службовых асобаў», перашкодзіўшы ім выконваць свае абавязкі (ч.1 арт. 366 КК). Жанчына ня згодная з такім рашэньнем, але да ўдзелу ў судзе яе проста не дапусьцілі...**

Жыхарка Гарадку Алена Емяльянава своечасова не заплаціла за паслугі дзяржадваката, які раней браў удзел у разводным працэсе. Зараз Алена жыве ў доме маці. Менавіта туды 11 чэрвеня прыйшлі судовыя выканаўцы.

Паводле пастановы Гарадоцкага райсуду, Емяльянава «ў мэтах перашкоды законнай дзейнасьці службовым асобам аддзелу прымусовага выкананьня Гарадоцкага раёну», «выказваючы пагрозы забойствам, замахвалася і дэманстратыўна накіроўвала нож у бок выканаўцаў».

**Зрабілі непрытомнай і да працэсу не дапусьцілі**

Судовая выканаўца Болдырава, расказала на судзе ў Гарадку, што падчас яе размовы па тэлефоне з маці Емяльянавай, Алена «ўзяла са стала кухонны нож у левую руку, узьняла яго над галавой і пачала рухацца ў іх бок».

Аспрэчыць паказаньні пацярпелых Алена Емяльянава магчымасьці ня мела, бо суд, спаслаўшыся на вынікі псыхіятрычнай экспэртызы, адмовіў ёй ва ўдзеле ў працэсе. Дарэчы, экспэртыза праводзілася амбулаторна — гэта размова ў кабінэце з вывучэньнем дакумэнтаў. Ніякіх іншых стацыянарных дасьледаваньняў у дачыненьні абвінавачанай ніхто не праводзіў.

Паводле той экспэртызы, Алену прызналі непрытомнай («невменяемой»).

**Маці: «Маю дачку абылгалі»**

Ня дала выніку і прыватная скарга ў абласны суд, якую ў якасьці законнай прадстаўніцы падавала маці Алены. У скарзе падкрэсьлівалася, што судовы разбор у Гарадку праходзіў з абвінаваўчым ухілам і што ў суду меліся ўсе падставы прызначыць дачцэ амбуляторнае лячэньне па месцы жыхарства, а не ў псыхіятрычным стацыянары.

Маці сьцьвярджала, што яе дачку проста абылгалі: «Магчыма, крыўда, што выгналі і сумку выкінулі, і стала падставай, каб яе абылгаць».

Скаргу ў аблсудзе не задаволілі, а саму Алену папрасілі пакінуць судовую залю — непрытомная ж...

Літаральна на днях пастанова Гарадоцкага суду аб прымусовым псыхіятрычным лячэньні Емяльянавай набыла законную моц. У любы момант за ёй могуць прыехаць праваахоўнікі з санітарамі.

**Емяльянава: Яны кожнага могуць прызнаць псыхам**

«Вось і дакажы цяпер, што я ня слон. Ведаеце, яны кожнага могуць пасьля размовы ў кабінэце псыхіятра прызнаць непрытомным псыхам. Кожнага!..» — абураецца Алена.

Мы сустрэліся ў Віцебскім абласным судзе 11 сьнежня. Алена і яе маці толькі што схадзілі на асабісты прыём да старшыні аблсуду, суправаджаў іх праваабаронца Павал Левінаў. Толькі там Алена змагла нарэшце агучыць сваю вэрсію здарэньня. Паўтарае яе і для аўтара гэтых радкоў. Расказвае спакойна і лягічна. На псыхічна хворую ніяк не выглядае.

Кажа, што, калі прыйшлі судовыя выканаўцы, яна, запарыўшы гарбату, наразала нажом апэльсін.

«Яны сварыліся некалькі хвілін па тэлефоне з маці, я тым часам дарэзала апэльсін, потым забрала ў іх тэлефон, пераклаўшы нож у левую руку, і сказала, каб яны сыходзілі прэч, бо ў гэтым доме няма маёмасьці, якая б належала мне. Так, нож быў. Магчыма, я яго прыпадняла да ўзроўню грудзей, жэстыкулюючы пры размове. На гэтым усё! Я ні за кім ня гналася, не крычала, што заб'ю ці зарэжу. Усё гэта хлусьня!» — сьцьвярджае Алена Емяльянава.

«Дарэчы, сьледчы экспэрымэнт на месцы не праводзіўся. Каб выехалі, то пабачылі б, што ўсе паказаньні судовых выканаўцаў, мякка кажучы, перабольшаныя», — дадае праваабаронца Павал Левінаў.

**Старшыня аблсуду абяцае разабрацца**

Высьветлілася таксама, што праз некаторы час у той жа дзень да Алены прыехалі міліцыянты з кайданкамі. Каб абараніцца і пазьбегнуць гвалтоўнага затрыманьня, Алена інсцэніравала суіцыд, прыставіўшы да шыі манікюрныя нажнічкі — міліцыянты вымушаныя былі выклікаць хуткую дапамогу. Менавіта праз гэты выпадак парасуіцыду яна была зьмешчаная на 40 дзён у псыхіятрычную клініку і выпісаная адтуль у задавальняючым стане, без сур'ёзнага дыягназу (звычайны псыхічны разлад). Нягледзячы на гэта, амбулаторная судмэдэкспэртыза прызнала яе

*(працяг на стар. 2)*

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

БАНКРУЦТВА

# НАЧАЛОСЬ БАНКРОТСТВО РАЙПО

**Экономический суд Витебской области возбудил производство по делу об экономической несостоятельности (банкротстве) Городокского районного потребительского общества, сообщили корреспонденту БЕЛТА в пресс-службе суда.**

Накануне собрание уполномоченных общества приняло решение о нецелесообразности проведения досудебного оздоровления райпо и необходимости обращения в суд с заявлением о своей экономической несостоятельности.

Согласно представленным документам, кредиторская задолженность предприятия превышает Br3 млн, в том числе долги по оплате труда работников составляют около Br12 тыс., по обязательным платежам в бюджет и внебюджетные фонды около Br32 тыс. Удельный вес просроченной кредиторской задолженности превысил 90%. По данным на конец октября 2019 года в отношении Городокского райпо возбуждено около 140 исполнительных производств на сумму свыше Br3,1 млн.

В целях проверки наличия оснований для открытия конкурсного производства и обеспечения сохранности имущества суд установил в отношении должника защитный период до 10 января 2020 года. Временным управляющим назначен индивидуальный предприниматель Николай Миронов.

Городокское райпо зарегистрировано решением Витебского облисполкома от 12 декабря 1996 года. Списочная численность работников предприятия превышает 40 человек, из которых 26 специалистов находятся в социальном отпуске по уходу за ребенком до достижения им возраста трех лет.

**www.belta.by**

АДПАЧЫНАК

# КАЗАЧНАЕ ПРАДСТАЎЛЕННЕ Ў РЭЗІДЭНЦЫІ

**У рэзідэнцыі Снягуркі на бас-востраве ў Гарадку распачаўся чарговы сезон казачнага прадстаўлення для дзяцей.**

З 21 снежня ў рэзідэнцыі Снягуркі распачаліся першыя прадстаўленні для дзяцей у выкананні казачных герояў гэтай рэзідэнцыі. Першай групай якая наведвала рэзідэнцыю была група вучняў з 3-4 класаў СШ № 2 г. Верхнедзвінска.

Па рэзідэнцыі Снягуркі ў казачным лесе іх суправаджалі Снягуля і Снегашуля. Першым прыпынкам стала «Школа навагодніх прамудрасцяў». Потым быў «Млын шчасця» і «Калодзеж прадказанняў», а з рэзідэнцыі Снягуркі выходзілі казачныя героі: ад вясёлай Бабы Яго да ката Катафеячы.

Нарэшце з церама з'явілася Снягурка з якой дзеці з лесу паклікалі Дзеда Мароза і пачалі вадзіць карагоды вакол святочнай ялінкі.

Праз усё падарожжа па Снягуркавай рэзідэнцыі дзеці гулялі ў розныя эстафеты, разгадвалі загадкі, праяўлялі кемлівасць.

А потым у цераме разам са Снягуркай і Дзедам Марозам пілі чай і частаваліся прысмакамі, атрымлівалі розныя прызы і шмат цукерак. Дзеці з Верхнядзвінску пабывалі ў сапраўднай сказцы і засталіся вельмі задаволенымі пасля агульнага фотаздымка з казачнымі героямі.

Вы зможаце падарыць свайму дзіцяці сапраўдную радасць і навагодні цуд. Бо ўражанні ад прадстаўлення назаўсёды застануцца ў памяці дзяцей, змогуць стаць прычынай добрага настрою не толькі ў свята, але і пасля яго завяршэння.

Усе прадстаўленні праводзяцца толькі па папярэднім запісе для груп ад 15 чалавек. Заяўку можна пакінуць па тэл .: 5-22-50, +37529 7136717, +37529 2973608.

Прыходзьце, будзе цікава!

**Леанід Гаравы**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

*(пачатак на стар. №1)*
пазьней непрытомнай і небясьпечнай для грамадзтва.

Каб вярнуць сабе «нармальнасьць» і «добрае імя» Алена Емяльянава прасіла старшыню абласнога суду Мікалая Хамічонка прынесьці пратэст на рашэньне Гарадоцкага суду, прыпыніць выкананьне пастановы, а яе накіраваць на стацыянарнае абсьледаваньне ў Рэспубліканскі цэнтар псыхіятрыі ў Навінкі.

«Важна тое, што на асабістым прыёме ў старшыні аблсуду прысутнічаў сам чалавек, які нібыта мае патрэбу ў прымусовым лячэньні і небясьпечны для грамадзтва. Дык вось яна глядзела ў вочы старшыні, і, маркую, ён зразумеў, што перад ім чалавек, які грамадзтву ніякай небясьпекі не нясе. Цалкам прытомная. Вельмі лягічна і ясна расказала ўсю гісторыю», — кажа Павал Левінаў.

Паводле праваабаронцы, Мікалай Хамічонак уважліва выслухаў, даў каманду выпатрабаваць крымінальную справу з Гарадку і паабяцаў у бліжэйшыя тэрміны разгле-дзець скаргу ды даць адказ.

«Віцебская Вясна» адсочвае сытуацыю.

**Зьміцер Міраш**
**vitebskspring.org**

ГАНДАЛЬ

# АДКРЫЛАСЯ КРАМА ГМ «СВІТАНАК»

**5 снежня ў будынку Гарадоцкага райспажыўсаюза з цэнтральнага фасада па вул. Савецкая д.16 адкрылася крама гандлёвай маркі «Світанак».**

У Гарадок на вул. Савецкая прыйшла трэццяя крама ад беларускіх вытворцаў — «Світанак». Як вы ведаеце, раней на вуліцы Савецкай пачала працаваць крама «Купалінка, гэтым летам з'явілася крама «Пінскі трыкатаж», а зараз адкрылася крама мусіць буйнейшага беларускага вытворца трыкатажу з гандлёвай маркай «Світанак».

Для пакупнікоў на працягу трох дзён дзейнічае акцыя — зніжка на 10% пры набыцці любых тавараў у краме.

Пра якасць і кошт тавараў і абслугоўвання вы можаце даведацца непаспрэдна ў краме.

Пра кампанію вядома, што яна паспяхова функцыянуе ўжо больш за 30 гадоў. Дзякуючы добраму спалучэнню высокай якасці і ўмеранай цаны прадукцыя ГМ «Сьвітанак» карыстаецца вялікай папулярнасцю як на беларускай, так і на замежных рынках.

У асартыменце швейнага прадпрыемства ёсць бялізна, спартыўны трыкатаж, а таксама трыкатаж для дома і адпачынку.

Кампанія выпускае 4 лініі трыкатажнага адзення: ясельнае, для дзяцей, для жанчын, для мужчын.

Калекцыі ГМ «Сьвітанак» абнаўляюцца кожны месяц, што дазваляе ўлічваць апошнія навінкі ў галіне сучаснай моды і дызайну.

ААТ «Сьвітанак» рэгулярна прымае ўдзел у галіновых выставах і міжнародных фестывалях і конкурсах, атрымліваючы заслужаныя ўзнагароды.

Сярод брэндаў ААТ «Сьвітанак» папулярныя «EGO», «Світанак», «FISHKA», «Кука-Вака».

Так пазіцыянуюць ГМ «Світанак» яе мэнеджэры. Яшчэ больш пра "Світанак"і іх палітыку продажаў магчыма даведацца тут: ***svitanak.by.***

**Л. Антонаў**

СВЯТА

# ВЫСТАВА ПАШТОВАК І ЦАЦАК

**Гарадоцкі музей прапануе азнаёміцца выставай навагодніх паштовак і ёлачных цацак «Навагодняя казка» пад час адмысловай экскурсіі, якую гатова правесці супрацоўніца музея Ірына Якімовіч. Пад час гэтай экскурсіі супрацоўніца музея распавядзе пра вытокі навагодняга свята, яго гісторыю, а таксамапра гісторыю ёлачных цацак і навагодніх паштовак у свеце і ў славян.**

"Новы год – галоўнае каляндарнае свята, надыходзячае ў момант пераходу з апошняга дня года ў першы дзень наступнага года. Адзначаецца многімі народамі ў адпаведнасці з прынятым календаром.

Вытокі свята Новага Года з'явіліся яшчэ вельмі даўно і азначала ён ці то, што мы святкуем сёння. Гэта было свята Абнаўлення, калі ўвесь цыкл жыцця паміраў, а пасля адраджаўся зноў. Як прырода, калі прыходзіла зіма дрэвы гублялі сваю лістоту, а па вясне расквіталі. Для шматлікіх народаў дзень Новага Года азначаў пагібель старога свету, і ўзнікненне новага, што азначала новую гісторыю і новы пачатак. У прыватнасці, свята Новы Год раней лічылася паганскім святам і адзначалася ў розны час года, не ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня, як мы прывыклі. Упершыню свята быў звязаны з паганскім богам неба Марадуком яшчэ ў старажытнай Месапатаміі, дзе свята адзначалі 12 дзён. Пасля, старажытныя егіпцяне звязвалі Новы Год з часам, калі разлівалася рака Ніл і ўсё ў акрузе размывала і абнаўляла.

Пачатак года з 1 студзеня было ўстаноўлена рымскім кіраўніком Юліем Цэзарам у 46 годзе да нашай эры. У Старажытным Рыме гэты дзень быў прысвечаны Янусу – богу выбару і ўсіх асноў. Першы месяц года юліянская календара, студзень, названы ў гонар гэтага бога. 1 студзеня людзі павінны былі жадаць адзін аднаму поспеху і ўдачы, так як першыя пажаданні, згодная старажытным вераванням, мелі найбольшыя шанцы ўвасобіцца ў жыццё. Менавіта ў яго храм, храм бога усіх пачынанняў, людзі неслі прысмакі і грошы, каб год, які пачынаўся быў паспяховым і багатым. Бога малявалі з двума асобамі: адна глядзела наперад, а другая – назад. Славяне, з 1493 па 1700 год па візантыйскай царкоўнай традыцыі святкавалі Новы год 1 верасня.

У 1700 годзе расійскі імператар Пётр І на заканадаўчым узроўні замацаваў усім нам вядомы Новы год зыходзячы з еўрапейскіх традыцый. Разам з датай Пётр І прывёз з заходняй Еўропы і традыцыю ставіць елкі. Іх упрыгожвалі свечкамі, стужкамі, цукеркамі і арэхамі. Навагоднія цацкі з'явіліся значную пазней, праз некалькі стагоддзяў.

З галоўным навагоднім чараўніком таксама усё не так проста. Старажытным славянскім дзедам марозам была Боскасьць Зюзя, але дабром і шчодрасцю яно не адрозніваласа. У беларускай міфалогіі Зюзя – паганскі бог зімы ў беларусаў. Паходзіць ад дзеясловы «зюзець» – мерзнуць, акалевацьад марозу. Увасабляе сабой зімовую сцюжу, а таксама каляндарны перыяд ад Каляд да вясновага раўнадзенства. Павел Шпілеўскі азначаў Зюзю як бога зімы і брата Перуна ў беларускай міфалогіі. Па паданні, Зюзя ўяўляецца як дзед з доўгай барадой, які жыве ў лесе, ходзіць басанож, без шапкі, у белым расхрыстаным кажуху. У руцэ трымае вялікую жалезную булаву. Ад яго подыху ўзнімаецца завіруха. Яго дыханне – гэта завіруха, яго слёзы – гэта лядзяш, шэрань – яго словы, а валасы-гэта снежныя аблокі. Пад Новы год беларусы варылі куцьцю, прыгаворваючы «Зюзя на двары – куцця на стале». Каб маразы не былі лютымі і ня пашкодзілі азімыя, першую лыжку куцці гаспадар кідаў Зюзе у акно са словамі: «Мароз, ідзі куццю есці!».

Значна больш інфармацы пра навагоднія традыцыі і ўпрыгожванні навагодняй ёлкі магчыма атрымаць пад час экскурсіі па выставе.

Экскурсію ў музей на выставу «Навагодняя казка» магчыма замовіць для дзетак па тэл.:+375213941849. Кошт экскурсіі сімвалічны, як і само самастойнае наведванне выставы.

**Л.Антонаў**

ПАРАЖ

# ТРЫ ПАЖАРЫ Ў ВОБЛАСЦІ

**За мінулыя суткі ў населеных пунктах вобласці адбылося тры пажары, у тым ліку і ў Гарадоцкім раёне.**

За мінулыя суткі з 20 на 21 снежня ў населеных пунктах Віцебскай вобласці адбылося 3 пажары, на якіх эвакуявана 6 чалавек, пашкоджаны 2 будынка, 1 адзінка тэхнікі. Работнікамі МНС на ДТЗ выратаваны 1 чалавек.

20 снежня ў 06-25 паступіла паведамленне аб пажары дома ў аграгарадку Лесагорская Езярышчанскага сельсавета Гарадоцкага раёна. У выніку пажару ў доме пашкоджаны дах, столевае перакрыцце, сцены, маёмасць. Прычына пажару высвятляецца.

У гэты ж дзень у 15-12 паступіла паведамленне аб пажары гаража ў ГПК № 5 па Старабабінавіцкаму тракту ў г. Віцебску. У выніку пажару ў гаражы пашкоджаныя маёмасць, аўтамабіль ВАЗ-2106. Прычына пажару высвятляецца.

21 снежня ноччу ў 1 г.10 хв. паступіла паведамленне аб пажары кватэры па вул. Е. Полацкай, д. 23 у г. Полацку. У выніку пажару ў кватэры ў пакоі 3×5 м знішчана маёмасць, закураны сцены, столь. Работнікамі МНС з чацвёртага і пятага паверхаў па лесвічных маршах эвакуіраваны 6 чалавек. Прычына пажару высвятляецца.

20 снежня адбылася ліквідацыя наступстваў ДТЗ у Верхнедзвінскім раёне. Каля 09-18 паступіла паведамленне аб дарожна-транспартным здарэнні на аўтадарозе Р-20 «Верхнядзвінск-Полацк». Гэта адбылося каля в. Ляшчылава Верхнядзвінскага раёна. Работнікамі МНС з аўтамабіля выратаван-дэблакіраван кіроўца.

**Т. Гаражанка**

ЗДАРЭННЕ

# СПАСЕНИЕ ЛОСЯ

**В Городокском районе лось провалился под лёд: спасатели спасли его в 250 метрах от берега.**

В первый день зимы в 14-00 в службу спасения города Городка от директора районного общества охотников и рыболовов поступило сообщение о том, что под лед провалился лось на озере Черново, возле деревни Лука Городокского района.

Когда спасатели прибыли на озеро, то увидели, что на расстоянии 250 м от берега, подо льдом находится лось и самостоятельно выбраться на берег не может.

Работниками МЧС при помощи гидротермокостюма и доски для спасания, животное было извлечено из озера.

Лось не пострадал, ушёл в лес, в ветеринарной помощи не нуждается.

**По информации:**
**vitebsk.mchs.gov.by**

"МІС БЕЛАРУСЬ"

# ПРЕДСТАВИТ РАЙОН НА ОБЛАСТНОМ ЭТАПЕ

**В Городке выбрали девушку, которая представит район на областном этапе «Мисс Беларусь — 2020».**

В выходные кастинги прошли в Городокском районе и Брагине и Минском района. 9 декабря самых красивых выбирали в Дрогичине, Пружанах и Барановичах. Требования — рост от 174 сантиметров, стройная фигура с хорошими пропорциями, приятное лицо. Но не обойтись без харизмы и обаяния.

Отбор в Городокском районе проходил в виде мини-кастинга: примерно 15 девушек, которые собрались в городском Доме культуры, оценивались внешне. Директор учреждения культуры Ирина Романюга рассказала, что творческие способности они смогут проявить на конкурсе «Городокская красавица» в феврале:

— Районный праздник пройдет по всем канонам конкурсов красоты: дефиле, творческие номера, самопрезентации. Для «Мисс Беларусь — 2020» выбрали одну участницу — Викторию Иванову. Девушка и представит район на областном этапе.

Виктория — студентка 4-го курса Витебского технологического университета. Для девушки участие в областном этапе будет не первым. В апреле этого годаона уже пробовала свои силы в региональном конкурсе грации и артистического мастерства «Королева Весна — 2019». Во время подготовки к состязанию посещала занятия по дефиле и хореографии, оттачивала мастерство при подготовке к творческому и интеллектуальному состязанию. В итоге девушке достался титул «Мисс Оригинальность»...

Минимум косметики и максимум обаяния. После районных кастингов — отбор региональный. Затем главные красавицы регионов выступят на республиканском этапе — финал национального конкурса красоты, уже двенадцатого по счету, пройдет в мае в столице. Победительница получит право представлять Беларусь на мировых подиумах.

ПАЛІТАЛОГІЯ

# ЧАС СЦЯЛІЦЬ САЛОМКУ?

**Пагоня за светам, што імкліва змяняецца, патрабуе пастаяннай карэкціроўкі заканадаўства, у тым ліку і Асноўнага закона краіны — Канстытуцыі. Чаго варта чакаць беларусам?**




Кожная краіна, нават тая, што прэтэндуе на ролю аднаго з полюсаў у сучасным свеце, — усяго толькі трэска ў бурных водах гісторыі. Адрозніваюцца краіны паміж сабой толькі ступенню разумення элітамі напрамку мэйнстрыму (англ. mainstream — «асноўная плынь»).

У краінах-лідарах эліты не спрабуюць веславаць супраць плыні, чаго не скажаш пра краіны-ізгоі. Кожная з іх, нібы няшчасныя сем'і ў рамане Льва Талстога «Ганна Карэніна», «нешчаслівая па-свойму» з-за таго, што спрабуе супрацьстаяць мэйнстрыму.

У 1975 годзе ў Беларусі колькасць гарадскога насельніцтва перавысіла колькасць сельскага — і тым самым завяршыўся фармальны пераход ад аграрнай эканомікі да індустрыяльнай. Наступны пераход ад эканомікі індустрыяльнай да постіндустрыяльнай у рэспубліцы-партызанцы быў завершаны ў 2008 годзе. Крытэрам гэтага пераходу з'яўляецца перавышэнне колькасці занятых у сферы паслуг над тымі, хто заняты ў сферы вытворчасці і прамысловасці.

Чарговы пераход кіраўнічы і інтэлектуальныя сегменты беларускай эліты прымудрыліся не заўважыць. Як першы, так і другі ў сваім разуменні макрапрацэсаў працягвае «ісці ад жыцця». І варта прызнаць, што за чвэрць стагоддзя яны здолелі аддаліцца ад гэтага жыцця на салідную адлегласць.

У якасці ілюстрацыі прывяду фрагмент з артыкула старшыні прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук, доктара эканамічных навук, прафесара, акадэміка Уладзіміра Гусакова «Беларускі шлях», апублікаванага ў «СБ. Беларусь сегодня» 17 кастрычніка 2019 года: «Менавіта буйнатаварны сектар у цяперашні час утрымлівае ў краіне эканоміку. Усё астатняе мае дапаможнае значэнне. Уключаючы не толькі малы і сярэдні бізнес у рэальным сектары, але і ў сферы паслуг» (выпушчана. — Рэд.).

Галоўны акадэмік краіны, а па сумяшчальніцтве і галоўны эканаміст — чалавек заняты. Рэгулярна праглядаць афіцыйную статыстыку часу ў яго няма. Але прафесійнаму пенсіянеру, аўтару «Азбукі паліталогіі» нішто не перашкаджае звярнуцца да апошняга нумару «Статыстычнага штогодніка».

На 207-й старонцы размешчана табліца «Структура вытворчасці валавога ўнутранага прадукту», згодна з якой уклад у ВУП сферы вытворчасці склаў у 2018 годзе 37,9%, сферы паслуг — 47,7% і чыстых падаткаў на прадукты — 14,4%.

Безумоўна, уклад вытворчасці ў ВУП усё яшчэ істотны. Але чаму робіцца высновы, што беларуская вытворчасць сваёй долі ў ВУП абавязаная выключна буйнатаварнаму сектару? Перагортваем старонку штогодніка: будаўніцтва — 5,4%; сельская, лясная і рыбная гаспадарка — 6,4% плюс іншыя дробязі. На долю ж апрацоўчай прамысловасці ў 2018 годзе прыйшлося толькі 21,5%!..

**Без карэкціроўкі не абысціся**

Між іншым, артыкул акадэміка ў самай саліднай газеце краіны пачынаецца са сказу: «Свет імкліва змяняецца». З гэтым не паспрачаешся, пытанне толькі ў тым, якія змены заўважаюць насельнікі верхніх паверхаў уладнай «вертыкалі» — гэтага сучаснага аналагу «вежы са слановай косці»?

У Беларусі сланы не водзяцца, таму не варта здзіўляцца дэфіцыту слановай косці ў краіне. Але ў Беларусі не робіцца і легкавыя электрамабілі, што не перашкаджае асобным шчаслівчыкам атрымліваць іх у якасці падарункаў — прычым непасрэдна з рук вытворцы.

Пагоня за светам, што імкліва змяняецца, патрабуе пастаяннай карэкціроўкі заканадаўства, у тым ліку і Асноўнага закона краіны — Канстытуцыі. 5 снежня, звяртаючыся да дэпутатаў парламента, адзіны палітык (АП) чарговым разам нагадаў пра гэта: «Парламентарыям сёмага склікання трэба будзе падключыцца да працы над праектамі, якія знаходзяцца ў плоскасці глабальных палітычных рашэнняў. У нас ужо назапасіўся шэраг пытанняў, якія трэба разам вырашаць на ўзроўні Асноўнага закона. Таму, відаць, нам з вамі, новым складам парламента, трэба будзе арганізаваць і далучыцца да працы па ўдасканаленні нашай Канстытуцыі».

У тым, што праца будзе праведзеная якасна, сумнявацца не даводзіцца. У Беларусі сфарміраваны па-сапраўднаму працаздольны прадстаўнічы і заканадаўчы орган. Тут я зноў спасылаюся на аўтарытэт АП. У сваю чаргу, новаабраная палата абавязаная сваёй будучай працаздольнасці «выбарам, якія прайшлі ў адкрытай канкурэнтнай барацьбе», што было пацверджана ростам колькасці прэтэндэнтаў на адзін дэпутацкі мандат у параўнанні з мінулай выбарчай кампаніяй.

**Пра карысць «жалезнай заслоны»**

Здагадак наконт канкрэтных зменаў Канстытуцыі хапае, аднак выказваюцца яны, як правіла, недзяржаўнымі аналітыкамі і журналістамі. Кошт такіх здагадак, што выходзяць ад тых, хто жыве на замежныя гранты, невялікі. На жаль, калегі грантасмокаў, чый хлеб з маслам аплачваюць беларускія падаткаплацельшчыкі праз бюджэт, сваімі думкамі па гэтым пытанні суайчыннікам не дакучаюць.

Нешматслоўны і сам ініцыятар чарговага перагляду Асноўнага закона. Тым не менш, як ні заканапачвай шчыліны, а вада шлях знойдзе. 5 снежня на сустрэчы з парламентарыямі АП сказаў літаральна наступнае: «Маё прынцыповае патрабаванне: мэтай меркаваных змяненняў павінна быць удасканаленне сістэмы кіравання».

На першы погляд, нічога нечаканага ў такім прыярытэце няма. Без развагаў пра неабходнасць «істотна падняць якасны ўзровень кіраўнічага корпуса краіны» за апошнія гады не абыходзілася ні адно пасланне. Беларускай эканоміцы патрэбныя энергічныя і прафесійныя кіраўнікі. З гэтым ніхто і не спрачаецца. Вось толькі дзе іх узяць?

…У гэтым сутнасць праблемы. У несучаснай дзяржаве з яе несучаснымі, часта выключна імітацыйнымі інстытутамі, сучасных кіраўнікоў не выгадаваць. Асобныя выключэнні толькі пацвярджаюць правіла.

Але як справядліва заўважыў галоўны акадэмік-эканаміст краіны: «Свет імкліва змяняецца». Таму ўсе знешнія выклікі, з якімі сёння сутыкаецца Беларусь, — гэта сучасныя выклікі! Неабходнасць змагацца за рынкі збыту — толькі адзін з прыкладаў, спароджаных сучаснасцю.

Савецкі Саюз спрабаваў адгарадзіцца ад знешніх выклікаў з дапамогай «жалезнай заслоны» і «глушылак». У нейкай ступені яму гэта ўдавалася, што дазваляла выпрацоўваць не толькі больш за ўсіх у свеце чыгуну і сталі на сярэднестатыстычную душу, але і электронна-вылічальныя машыны ўласнай распрацоўкі на ўласнай элементнай базе. Але як толькі «заслона» звалілася — ад высокатэхналагічных галін засталіся толькі рожкі ды ножкі.

**Прэцэдэнты маюцца**

Несучасная эканоміка не здольная выпрацоўваць сучасную канкурэнтаздольную прадукцыю. Але эканоміка — гэта толькі частка айсберга, створанага прадстаўнікамі віду Homo sapiens. Тым, хто хоча пераўзысці перадавыя краіны ў распрацоўцы і вытворчасці найноўшых электронных гаджэтаў, пачынаць варта з рэформы выбарчай сістэмы і суда. Гэта азбука.

Заклікамі адкручваць галовы і выварочваць рукі тым, хто перашкаджае адладжанай працы чальцоў участковых выбарчых камісій, сістэму кіравання да сучаснага ўзроўню не падцягнуць, а вось апусціць яе ў Сярэднявечча можна, што на практыцы і адбываецца.

Па традыцыі, якая склалася ў дзяржаве для народа, усе значныя рашэнні распрацоўваюцца ў таямніцы ад народа ў рэжыме спецаперацый. Карэкціроўка Асноўнага закона не стала выключэннем. Аднак складана сабе ўявіць, якім чынам з дапамогай перапісвання артыкулаў Канстытуцыі можна ўдасканаліць сістэму кіравання ў краіне.

Канстытуцыя ўзору 1996 года засярodзіла ўсю паўнату ўлады ў адных руках, але нават у часы Полацкага княства такая канцэнтрацыя ўлады да дабра не даводзіла. Таму не варта здзіўляцца таму, што эканамічны рост у краіне дыхае на ладан.

Нерэальна паверыць у атракцыён «Нечуванае шчодрасць» — у гатоўнасць АП падзяліцца часткай сваіх паўнамоцтваў, калі толькі ён не прыняў папярэдне несумяшчальную з жыццём дозу алкаголю. Застаецца выказаць здагадку, што гаворка ідзе пра механізм перадачы ўлады...

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

УВАГА: РАСІЯ

# ТРЫМАЙСЯ ДАЛЕЙ АД РАСІІ!

**Тыя беларускія кампаніі, якія нешта ствараюць, не хацелі бы працаваць з Расіяй. Прынамсі, яе, здавалася б, агромністы рынак — для іх не прыярытэт. Пра гэта сведчаць дадзеныя digital-агенцтва Artox Media Digital Group.**

У рамках конкурсу «Народная марка» згаданае агенцтва правяло апытанне, пра якія рынкі мараць беларускія кампаніі — у асноўным з лёгкай прамысловасці. Высветлілася, што самыя папулярныя сярод беларусаў брэнды — пераможцы конкурсу «Народная марка-2020», — не вельмі разлічваюць на ўсходнюю суседку.

Па выніках апытанкі высветлілася, што традыцыйную большасць у жаданнях гандляваць набіраюць краіны Еўрасаюза — 37,5% усіх апытаных. Яшчэ 22,5% кампаніяў у перспектыве разглядаюць супрацоўніцтва з Азіяй у самым шырокім сэнсе гэтага слова — ад Казахстану да Японіі і Кітаю.

Прадстаўнікі 12,5% брэндаў пажадалі размяшчаць свае тавары на паліцах крам Паўночнай Амерыкі. Афрыка і краіны Лацінскай Амерыкі прыцягваюць стратэгічныя погляды толькі трох пераможцаў «Народнай маркі-2020».

Вельмі цікавая гэтая статыстыка па галінах прамысловасці. Канешне, самы вялікі блок брэндаў харчовай прамысловасці марыць пра скарэнне ўсяго свету. І на гэта маюцца падставы, бо есці людзі не перастануць ніколі. Таму сярод класічных напрамкаў — Германія, Польшча, Казахстан і Кітай — аказаліся і адносна экзатычныя краіны: Японія, Манголія і Аўстралія.

Кампаніі, што выпрацоўваюць прадметы інтэр'еру, мараць заваяваць рынкі Канады, Нарвегіі, Англіі і Іспаніі. Вытворцаў адзення прыцягвае Італія і Чэхія.

Тры кампаніі-брэнда бытавой хіміі ў якасці рынку прывабліваюць Расія і Кітай. А вось рэкламны бізнес з задавальненнем папрацаваў бы ў краінах-суседках: Украіне і Расіі.

Усяго у апытанцы прыняло ўдзел 40 кампаній. Нявысат, але выснова даволі відавочная. Усе, хто стварае прадукцыю, амаль не разглядаюць Расію ў якасці гандлёвага партнёра. А вось тыя, чыя праца заключаецца ў прасоўванні тавараў і паслуг, і прымусу легкаверных грамадзянаў да набыцця непатрэбных ім рэчаў (рэкламшчыкі) лічаць, што даволі ўпэўнена адчувалі бы сябе на прасторах нашай усходняй суседкі.

Чаму расійскі — здавалася б, родны і велізарны — рынак не прываблівае, а адштурхоўвае беларусаў-вытворцаў прадукцыі? Часткова на гэта некалькі дзён таму даў адказ генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк. Па яго дадзеных, на 1 кастрычніка гэтага года запазычанасць расійскіх прадпрыемстваў перад беларускімі суб'ектамі гаспадарання складала каля 2,1 мільярда (!!!) долараў!

Генпракуратура займаецца пытаннямі пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці ўжо пяць гадоў. За гэты час было ўзбуджана больш за 100 крымінальных спраў, удалося вярнуць больш за 100 мільёнаў долараў. Цяпер заяўлена больш за 400 пазоваў на суму больш за 130 мільёнаў долараў.

Зразумела, вытворцы хочуць атрымаць грошы за сваю прадукцыю. А вось гэтага «партнёры» ў Расіі якраз і не гарантуюць.

**Таццяна Лісічэнка**
**"Новы Час"**

ОТКРОВЕНИЯ МЕДВЕДЕВА

# РОССИЯ БЕРЕТ БЕЛАРУСЬ ЗА ГОРЛО ЕДИНОЙ ВАЛЮТОЙ

**Сенсационное заявление по поводу «углубленной интеграции» сделал вечером 23 декабря российский премьер Дмитрий Медведев. Как можно понять из его слов, остается не согласованной последняя, 31-я дорожная карта дальнейшей интеграции. И она — внимание! — предусматривает создание наднациональных органов, единую валюту и единый эмиссионный центр.**

Медведев, таким образом, трактует остающиеся расхождения между союзниками иначе, чем это сделал министр экономического развития России Максим Орешкин по итогам переговоров Александра Лукашенко и Владимира Путина в Санкт-Петербурге 20 декабря. Орешкин тогда заявил, что «три группы вопросов, которые осталось решить, чтобы финализировать все дорожные карты», — это «договоренности в нефтяной, газовой и налоговой сфере».

Надо сказать, что и те три группы вопросов — каша, которую дай бог расхлебать. Если же ориентироваться на свежее заявление российского премьера, то все еще сложнее и — скажем откровенно — печальнее для Беларуси.

**Москва жестко напоминает о невыполненном договоре**

Напомню, что в последние месяцы высокие белорусские чиновники в ответ на тревоги общественности успокаивающе заявляли: переговоры в рамках «углубления интеграции» переведены в сугубо экономическую плоскость и потому, мол, суверенитету Беларуси ничто не угрожает.

При этом министр иностранных Беларуси Владимир Макей в интервью российскому агентству РБК 1 октября признался, что первоначально предложения Москвы «предусматривали включение каких-то положений, которые были абсолютно неприемлемы, в частности, для белорусской стороны». Речь шла, пояснил он, о создании «каких-то наднациональных структур, что не соответствует опять-таки положениям союзного договора».

Здесь, к слову, министр неточен. Союзный договор 1999 года как раз-таки предусматривает единые парламент, Совмин, суд, Счетную палату, эмиссионный центр. Просто в начале 2000-х Минску удалось замести эти неудобные пункты под ковер. Но, как оказалось, не навсегда.

Год назад «ультиматумом Медведева» Москва как раз и начала принуждение к «углубленной интеграции», апеллируя к подписанному Лукашенко договору 1999 года. Мол, хотите равных условий хозяйствования — давайте выполнять все в комплексе. А то вы горазды только изюм выковыривать из булки союзных договоренностей.

На пресс-конференции 19 декабря в Москве Путин, говоря о перспективах экономической поддержки Беларуси, жестко напомнил, что тот договор на 90% не выполнен. И также подчеркнул, что для продолжения этой поддержки нужно не только унифицировать налоговое и прочее законодательство, но и создать «общие наднациональные органы, контрольные и эмиссионные».

**Троянский рубль для Минска**

При этом ежу понятно, что под маркой единой валюты де-факто речь идет о введении в Беларуси российского рубля. Отказываться от него и придумывать ради белорусов новую союзную валюту (какое-нибудь «азиевро») Москва, понятно, не разгонится: еще чего!

При разнице экономик примерно в 30 раз поглотить «младшую сестру» с помощью единой валюты, эмиссию которой опять же наверняка будет контролировать Кремль, окажется задачкой на раз-два. Так что Беларуси предлагают троянский рубль.

Прекрасно понимая, чем это пахнет, Лукашенко не раз с эмоциональной образностью заявлял, что в Москву за зарплатой ездить не собирается. И недаром он так ожесточенно топил единую валюту в начале 2000-х. Даже апеллировал, презрев политический антагонизм, к авторитету опального экс-главы Национального банка Станислава Богданкевича.

На фоне свежего заявления Медведева может показаться странным оптимизм первого вице-премьера Беларуси Дмитрия Крутого на торжественном приеме в российском посольстве в Минске 23 декабря.

«На сегодняшний день у нас, большому счету, за исключением нескольких вопросов, которые уточнятся в ближайшие два-три дня, интеграционный пакет будет согласован. Мы подберем время, чтобы наши лидеры в торжественной обстановке его подписали или парафировали. Это придаст беспрецедентный новый импульс нашим отношениям», — цитирует ТАСС Крутого, возглавляющего с белорусской стороны рабочую группу по интеграции.

…Впрочем, заявление Медведева допускает и такую трактовку: пока стороны подпишут 30 уже согласованных карт. «Работа проделана, [дорожные] карты согласованы, и в принципе, если серьезно смотреть на интеграцию, мы можем перейти к ее форсированному продвижению, а именно исполнить то, что в этих картах значится — с первой по тридцатую, принять унифицированное законодательство, чтобы это были настоящие законы», — сказал (цитата по ТАСС) российский премьер 23 декабря в подмосковных Горках.

**Нет худа без добра?**

При этом Медведев подчеркнул, что все формы дополнительной поддержки Беларуси «возможны только в случае, если дорожные карты будут исполнены и воплотятся в законы».

И вот это для белорусского руководства самый неприятный момент. Попытки выторговать уступки авансом провалились. Москва не дает новых кредитов (даже тех, что уже были обещаны). Судя по всему, поставлен крест на схеме ежегодной перетаможки 6 млн тонн российской нефти, что приносило в белорусский бюджет сотни миллионов долларов. Также сотнями миллионов, а то и миллиардами долларов в год измеряются потери Беларуси от удорожания нефти в результате российского налогового маневра.

А компенсацию за него Москва готова дать только после принятия единого налогового кодекса. Который, как говорят наши специалисты, может оказаться крайне невыгодным Беларуси. Так что неизвестно еще, стоит ли овчинка выделки даже в сугубо экономическом смысле.

К тому же чистой экономики при слишком тесных отношениях с большой соседкой, у которой имперские замашки, в принципе быть не может. Это всегда пахнет политикой, угрозой постепенной инкорпорации.

Даже без последней, 31-й карты интеграционный пакет, эта большая сделка с двойным дном, несет угрозы как минимум экономическому суверенитету Беларуси. Москва же, судя по настрою, намерена дожимать и с 31-й картой, которая, если Медведев все сказал точно, уже совсем четко рисует путь к мягкому поглощению. Если не сейчас (теперь надо хоть что-то подписать, дабы сохранить лицо), так чуть позже.

Расчет Кремля строится на том, что белорусское руководство боится потерять субсидии и потому воленс-ноленс втянется в процесс «углубления интеграции». При этом нетрудно предвидеть, что Лукашенко будет сопротивляться, уходить от дискомфортных пунктов.

…В принципе, нет худа без добра. Новую суровую реальность, наступающую с подачи Москвы, можно использовать во благо — для реформ и диверсификации. Однако политической воли на такой подвиг у Лукашенко пока не видно.

**Александр Класковский**
**naviny.by**

ЗАМОВА?

# СУДДЗЯ ГАННА ІГНАЦЕНКА І ДВА ШТРАФЫ ДЛЯ «БЕЛСАТА»

**Суд Віцебскага раёна аштрафаваў журналістаў-фрылансераў Алену Шабуню і Змітра Лупача амаль на 2 тысячы рублёў паводле артыкула 22.9 КаАП.**

Суддзя Ганна Ігнаценка 12 снежня прызнала журналістаў вінаватымі ў парушэнні заканадаўства аб СМІ — за супрацу з замежным медыя без акрэдытацыі ў беларускім міністэрстве замежных спраў.

Паводле рашэння суда, Зміцер Лупач мусіць сплаціць у дзяржказну штраф у памеры 42 базавых велічынь, Алена Шабуня — 32 базавыя велічыні.

**Справа пра выбары і дарогу для вяскоўцаў**

16 лістапада на тэлеканале «Белсат» быў паказаны відэасюжэт пра жыхароў вёскі Шэвіна, якія адмовіліся ісці на мінулыя парламенцкія выбары з-за даўняй і нявырашанай праблемы. Пратэст вяскоўцаў быў звязаны з тым, што ніводзін дэпутат не дапамог сталым ужо людзям дамагчыся маленькай саступкі — дазволу на праход па тэрыторы санаторыя «Лётцы». Раней яны хадзілі па дарозе ўздоўж плота ў суседнія Малыя Лётцы, дзе ёсць крама, аптэка, пошта і чыгуначная станцыя. Цяпер праход закрылі, і вяскоўцам даводзіцца дабірацца па дарозе, якая на тры кіламетры даўжэй.

Увага журналістаў была вельмі дарэчы, сказала на судзе старэйшына вёскі Антаніна Зайцава:

— Мы куды толькі не звярталіся — і ў віцебскія газеты, і на АНТ, і ў праграму «Времечко». Карэспандэнты прыязджалі, здымалі, запісвалі, але ніводзін сюжэт пра наша гора так і не выйшаў. Адзінае выключэнне — «Белсат», і то над людзьмі, якія хацелі нам дапамагчы, зладзілі судзілішча!

**Алена Шабуня: «Суддзя паводзіла сябе скрайне зняважліва»**

Працэс над журналістамі вяла суддзя Ганна Ігнаценка. На думку Алены Шабуні, паводзіны суддзі былі абуральныя:

— Суддзя не задаволіла ніводнага хадайніцтва, у тым ліку на ўдзел у працэсе сябра ГА «БАЖ», праваабаронцы Паўла Левінава. Яна не давала гаварыць, перабівала, рабіла недарэчныя заўвагі, пагражала. А калі я папрасіла зрабіць перапынак і пайшла да старшыні суда, каб падаць на яе скаргу, суддзя ўжо была там і пра нешта раілася. Верагодна, і рашэнне пра тое, як нас пакараць, яна не прымала самастойна.

Журналістка пяць разоў заяўляла адвод суду, і штораз суддзя канстатавала, што для гэтага няма падставаў.

Паводзіны суддзі Ганны Ігнаценка абурылі і журналістаў, якія прыйшлі асвятляць працэс. А Паўла Левінава яна ўрэшце выдаліла з залы суда, бо ён неаднаразова звяртаў увагу на памылкі падчас разгляду адміністрацыйнай справы.

**Зміцер Лупач: «Хоць суд і знаходзіцца на вуліцы Праўды, але праўды ў ім няма»**

Алену Шабуню паводле арт. 22.9 КаАП сёлета судзілі другі раз, а для Змітра Лупача працэс у Віцебску стаў ужо чацвёртым. І самым працяглым, кажа журналіст:

— Самы кароткі суд у мяне працягваўся 23 хвіліны, а гэты амаль чатыры гадзіны. Суддзя блыталася ва ўласных словах, зацягнула знаёмства з пісьмовымі дакументамі, і адзінае, што было добра — гэта поўны прагляд праграмы «Аб'ектыў», дзе быў наш сюжэт. Паўгадзіны ўсе глядзелі навіны, прычым было відаць, што гэта цікава і самой суддзі. Але канчатковы вынік быў прадказальны: два штрафы. Мне больш, як «рэцыдывісту», Алене на 10 базавых меншы.

Зміцер Лупач адзначае і яшчэ адну асаблівасць. Пэўна, таму, што сюжэт тычыўся выбараў, адміністрацыйную справу супраць журналістаў распачалі і скончылі ў рэкордна кароткі тэрмін. Сюжэт выйшаў 16 лістапада, а ўжо назаўтра міліцыянты пачалі шукаць сведак. Не прайшло і месяца, як было абвешчана судовае рашэнне.

**Павел Левінаў: «Пастанову будзем абскарджваць»**

На думку праваабаронцы Паўла Левінава, якога выдалілі з пасяджэння, суддзя прадэманстравала не толькі прававу непісьменнасць, але і слабае веданне працэсуальнага заканадаўства, таму зрабіла шмат памылак падчас пасяджэння.

Што да вынікаў, то Павел Левінаў гатовы дапамагчы ў абскарджванні пастановы:

— Алена Шабуня і Зміцер Лупач рэалізоўвалі сваё права на свабоду выказвання ўласнага меркавання, і за рэалізацыю гэтага права іх караюць. Пра якую прававу дзяржаву тады можна казаць? Скарга будзе пададзена ў Віцебскі абласны суд, а калі гэты орган не верне сітуацыю ў прававое поле, то журналісты будуць вымушаныя звярнуцца ў вышэйшыя інстанцыі, аж да Камітэта ААН па правах чалавека.

**baj.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.12.2019 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.